# Ніва

Тыднёвік беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 3 (1038) ГОД XXI 18 СТУДЗЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі**

Усе радасці жыцця — у творчасці. Тварыць — значыць забіваць смерць.

*Р. Ролан*

Лік гадоў яшчэ не сведчыць аб даўжыні жыцця: жыццё чалавека мерыцца тым, што ён у ім зрабіў і адчуў.

*С. Смайлс*

Дрэнна, калі ў чалавека няма чаго-небудзь такога, за што ён гатоў памерці.

*Л. Талстой*

Вялікіх людзей корміць праца.

*Сенека*

# У дружнай сям'і студэнтаў

**У Варшаве на вуліцы Смычковай жывуць і вучацца студэнты рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіі Варшаўскага універсітэта.**

Маё знаёмства з імі пачаў я ад завочнікаў беларускай філалогіі, якія цэлай гурбою высыпаліся з аўдыторыі ў вестыбюль. Сярод іх **Антаніна Куна,** якая працуе ў Бельскім доме культуры і ўжо распачала трэці курс беларускай філалогіі. Гаворыць, што разам з ёю вучыцца цяпер 17 чалавек.

— Ці цяжка вывучаць беларускую філалогію?. — пытаю яе.

— Мне — цяжкавата, — шчыра прызнаецца пані Антаніна. — Затое цяпер я ўжо ведаю, якой багатай з'яўляецца наша родная беларуская мова. Яна зусім не „простая" і не толькі „сялянская" ці „мужыцкая"... Ёю князі і вялікія паны карысталіся, на ёй каштоўныя помнікі старажытнай пісьменнасці і гістарычныя акты складалі. Я пераканалася, што беларуская мова зусім не горшая, не менш вартасная ад усіх іншых еўрапейскіх моў, што яна ў сваёй аснове захавала найбольш элементаў стараславянскай мовы, ад якой выводзяцца ўсе іншыя мовы славянскай супольнасці...

**Сцяпан Іванюк** настаўнічае ў вёсцы Юрчэня, што чатыры кіламетры ад Боцек. Там, дзе ён вучыць, няма ў школе беларускай мовы. Аднак ён сабе выбраў беларускую філалогію. Чаму?

— Бо гэты напрамак найбольш адпавядаў маім асабістым зацікаўленням, — адказвае ён зусім проста і звычайна, не стараючыся — на ўжытак журналіста — прадэманстраваць болей „высакароднага" паяснення свайго выбару. Пасля гэты простыя і — здаецца мне — зусім шчыры адказ паўтаралі, як бы змовіліся, амаль усе мае субяседнікі з дружнай студэнцкай сям'і. Вось як **Аня Іванюк** з вёскі Малінікі і **Ніна Амельянюк** з вёскі Козлікі — студэнткі першага курса. Абедзве яны толькі што закончылі Бельскі беларускі ліцэй і адразу накіраваліся на беларускую філалогію.

Такеама і **Зося Вака** з вёскі Зубачы, што пад граніцай у Чаромхаўскай гміне, і **Ніна Томчук** з Крывяціч за Орляй. Абедзве выпускніцы Бельскага беларускага ліцэя, абедзве ўжо другі год вывучаюць беларускую філалогію і абедзве задаволены, што выбралі менавіта гэты, а не іншы напрамак для сваёй вышэйшай адукацыі.

— Хто салідна тут папрацуе, — гавораць яны, — то здабудзе грунтоўныя і шырокія веды не толькі ў вузкай спецыяльнасці, абмежаванай выключна да беларускай філалогіі. Наш дыплом — **дыплом магістра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта** — дае аднačасова ўсе тыя ж правы, што дыплом выпускніка рускай філалогіі. Толькі і працаваць нам прыходзіцца падвойна.

(Працяг на стар. 4)

# Варшава



Варшаўская Ніке.



Каралеўскі замак у Варшаве.



Уваходная брама Варшаўскага універсітэта.

Фота Я. Цялушэцкага.

## Праз тыдзень у „Ніве"




# Інтэрв'ю з „архітэктарам д'ябла"

На тэлеэкране — сівавалосы мужчына, спакойны, крыху марудлівы. Гэта 70-гадовы Альберт Шпеер, адзін з бліжэйшых памочнікаў Гітлера, асуджаны за ваенныя злачынствы Нюрнбергскім трыбуналам на 20 гадоў турэмнага зняволення. Карэспандэнт аўстрыйскага тэлебачання бярэ ў яго інтэрв'ю ў фамільнай віле ў Гейдэльбергу. Карэспандэнт — сама ветлівасць: мяккія, ненадакучлівыя пытанні, сяброўскі тон. Той, у каго бяруць інтэрв'ю — увасабленне годнасці, шматслоўныя, упэўненыя адказы. Пазней, рэцэнзуючы перадачу „Трыумф і падзенне", газеты падкрэслівалі, што Альберт Шпеер, як ніхто іншы, ведае сакрэты трэцяга рэйха.

А. Шпеер — фігура, даволі вядомая старэйшаму пакаленню Заходняй Еўропы і асабліва немцам. Прафесія — архітэктар. З маладых гадоў — член нацысцкай партыі. Шпеер трапляе ў бліжэйшае акружэнне Гітлера, становіцца яго любімчыкам. Лічылася, што фюрэр, які марыў стаць вялікім мастаком, імкнуўся ўвасобіць у маладым і энергічным „партайгеносэ" свае юнацкія мары. Па заданню Гітлера Шпеер узводзіць Партайгелендэ — пампезны комплекс збудаванняў для нацысцкіх партыйных з'ездаў у Нюрнбергу, будуе імперскую канцылярыю, распрацоўвае планы ператварэння Берліна ў „сталіцу свету". З пачатку вайны Шпеер выконвае шэраг адказных даручэнняў фюрэра і ў лютым 1942 года дасягае вяршыні сваёй кар'еры: Гітлер прызначае яго на пасаду міністра ўзбраенняў.

На тэлеэкране — радасныя натоўпы, якія вітаюць фюрэра і яго прыбліжаных, парады, бясконцыя рады танкаў і гармат, завадатары фашысцкай Германіі. Пастаянна побач з фюрэрам — малады, падцягнуты Альберт Шпеер... На такім фоне старой кінахронікі і вядзецца гутарка з непасрэдным удзельнікам падзей. Карэспандэнта цікавіць многае. Выключна важна, напрыклад, даведацца, як Шпееру на пасадзе міністра ўзбраенняў удалося дабіцца небывалага павелічэння ваеннай вытворчасці. Цікавая і размова аб „загадкавасці" асобы фюрэра, яго „інтэлігентнасці". Шпееру яўна прыемна ўспамінаць аб былой „велічы" сваёй персоны. Мала хто меў права ўваходзіць у кабінет фюрэра без даклада сакратара. Не кажучы ўжо аб застоллях з Гітлерам і Евай Браун.

Кадры Нюрнбергскага працэсу. Шпеер — на лаве падсудных. Карэспандэнт не супраць выказаць аб працэсе асабістую думку: абгрунтаванасць суда пераможцаў над пераможанымі заўсёды выклікае сумненне.

Пытанне з галіны псіхалогіі: як адчувае сябе чалавек, асуджаны на такі доўгі тэрмін, як ва ўмовах турмы захаваць псіхічную раўнавагу?

Мяркуючы па адказах Шпеера, жыць у турме можна. Галоўнае — працаваць у садзе, вырошчваць клубніку і наогул займацца справай. У турме Шпандау Шпеер заняўся самаадукацыяй, шмат чытаў, пісаў кнігі.

Сапраўды, яшчэ ў турме, дзе ён прабываў 21 год і 4 месяцы, Шпеер узяўся за мемуары. У 1969 годзе выйшла яго першая кніга — „Успаміны", у гэтым годзе — „Дзённік Шпандау". У абедзвюх па-свойму расцэньваючы мінулае, аўтар імкнецца стварыць партрэт „чалавечага" фашызму, не спыняючыся нават перад спробамі абяліць Гітлера. Кнігі гітлераўскага міністра дзякуючы ўзмоцненай рэкламе сталі бестселерамі.

Многія мяркуюць, што тэлеінтэрв'ю Шпеера, ужо двойчы пракручанае ў Аўстрыі, будзе паказана і тэлегледачам ФРГ. У колах, якія займаюцца ідэалагічнай рэабілітацыяй фашызму, для апраўдання ладу, які парадзіў фашызм, лічацца дапушчальнымі любыя сродкі. Чаму ж не выпусціць на тэлеэкран чалавека, якога ў свой час у Германіі называлі „архітэктарам д'ябла"?

**А. Думаў**



*Дырэктар Інстытута мовазнаўства М. Р. Суднік адкрывае сімпозіум. Далей справа налева: праф. Л. Асоўскі, др В. Мартынаў, кандыдат філалагічных навук Г. Цыхун.*

# Беларуска-польскі сімпозіум у Мінску

23-25 верасня 1975 года ў Мінску адбыўся навуковы сімпозіум па праблеме „Беларуска-польскія ізалексы", у якім удзельнічала і група моваведаў з Польшчы. Да сімпозіума былі выдадзены матэрыялы адказаў на анкету (Беларуска-польскія ізалексы, Мінск 1975). З 22 адказаў на анкету, надрукаваных у зборніку, аж 8 артыкулаў належыць польскім моваведам, гэта артыкулы С. Глінкі, Т. Зданцэвіча, А. Кавальскай, М. Кандрацюка, Г. Папоўскай-Таборскай, А. Смулковай, С. Урбанчыка і Б. Фалінскай. Два даклады, не змешчаныя ў зборніку, былі прачытаны на першым пасяджэнні, гэта даклады праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай і Л. Асоўскага.

Сімпозіум адкрыў уступным словам дырэктар інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР М. Р. Суднік. Падкрэсліў ён, што без удзелу польскіх славістаў усебаковае даследаванне беларуска-польскіх лексічных кантактаў было б немагчымым. З цікавымі абагульняючымі дакладамі аб адказах на анкету выступілі В. І. Мартынаў і Г. А. Цыхун. У дыскусіі ўдзельнічала каля 20 чалавек.

Што ж такое ізалексы? Вядома, што кожнае слова мае не толькі сваю ўласную гісторыю, але, калі так можна сказаць, і геаграфію. Ёсць словы старажытныя, спрадвеку характэрныя для данай мовы, такія, як *вада, зямля, маці, брат*, і словы параўнальна маладыя, як *фабрыка, трактар, трактарыст, райком, спадарожнік Зямлі* і іншыя. Часам словы вельмі старажытныя захаваліся толькі на невялікай тэрыторыі. Незвычайная каштоўнасць такіх слоў для гісторыі мовы і культуры народа патрабуе іх стараннай фіксацыі і вывучэння.

Геаграфію многіх беларускіх слоў паказвае „Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (Мінск 1963), а на тэрыторыі Беласточчыны — „Дыялектны атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны", які рыхтуецца да друку ў Інстытуце славяназнаўства ПАН у Варшаве. Лінію на спецыяльнай карце, якая адмяжоўвае дыялектную тэрыторыю распаўсюджання данага слова ад тэрыторыі, дзе замест яго ўжываецца іншае слова, называюць ізалексай. Вельмі часта такія лініі не спыняюцца на моўнай мяжы, а пераходзяць яе і аб'ядноўваюць часткі размоўных тэрыторый, утвараючы так званыя міжмоўныя ізалексы. Такія міжмоўныя ізалексы з'яўляюцца пераканальным сведчаннем кантактаў паміж народамі, а, устанавіўшы іх тыпы і старажытнасць, можна ўзнавіць гістарычны малюнак сувязей гэтых народаў.

На сімпозіуме ў Мінску абмяркоўваліся словы, якія ўтвараюць характэрныя міжмоўныя лексічныя арэалы Гродзеншчыны і Падляшша, Палесся і Кашубшчыны, Беларусі і Мазоўша і г.д. Падкрэслівалася выключная роля гаворак т. зв. кантактнай зоны (у даным выпадку гаворак Беласточчыны) у перадачы і распаўсюджванні асобных беларускіх і польскіх слоў на суседніх тэрыторыях.

У выдадзеным зборніку і выступленнях на сімпозіуме прыводзіліся прыклады супольных запазычанняў з літоўскай, нямецкай і англійскай моў, якія сустракаюцца ў гаворках Мазоўша, Беласточчыны, Гродзеншчыны і іншых дыялектах. З літоўскай мовы былі запазычаны такія словы, як *кульша, кумпяк, рэзгіны*, з нямецкай — *стусіна* (пугаўё), *дрэяр* (чалавек, які вырабляе калаўроткі), *трама* (галоўная бэлька пад столлю), з англійскай — *нактаўза, міктаўза* (гальштук) і іншыя. Называлася таксама пэўная колькасць беларусізмаў, якія існуюць у дыялектах польскай мовы, як напрыклад: *кнігаўка, бойка, дуга, аглоблі*, і паланізмаў, якія выступаюць у гаворках на беларускай моўнай тэрыторыі, напрыклад: *мянтуз, піскур, тэнча* (вясёлка), *тлучка* (бойка).



*Удзельнікі сімпозіума ў часе пасяджэння: загадчык сектара беларускай мовы ў Інстытуце славяназнаўства ПАН, др С. Глінка і намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР, праф. А. Жураўскі.*

Пасля двухднёвага навуковага пасяджэння адбылася экскурсія на радзіму двух Міцкевічаў, беларускага выдатнага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы Якуба Коласа (сапраўды: Канстанцін Міцкевіч), і на Навагрудчыну, радзіму вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.

**Міхал Кандрацюк**



*Брат Якуба Коласа Юзік Міцкевіч падпісвае ўдзельнікам экскурсіі паэму „Новая зямля", у якой Колас называе яго „Юзік-шаляніца". На здымку злева направа: праф. С. Урбанчык з Кракава, М. Кандрацюк з Варшавы, І. Лучыц-Федарэц і А. Сакалоўская з Мінска.*




**Sobota 17.I.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Zool. 8.30 Królowa białego sportu — film fab. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zool. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.30 Red. Szk. zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Białoruś radz. — film dok. 17.05 Za kierownicą. 17.30 Karl Schranz uczy jazdy na nartach. 17.45 Pol. Film Dok. „Mosty". 18.15 Sobota Młod. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Dowcipniś — film fab. franc. 21.45 Dzien. 22.05 Koncert z okaz. XXXI rocz. Wyz. Warszawy. 22.55 Mistrz. Eur. w jeździe figur. na lodzie. 23.20 Opowieści Starsz. Pana.

**Niedziela 18.I.** 6.15 Tech. Rol. J. pol. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Nowocz. w domu i zagr. 8.25 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Wiad. sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Bitwa w wąwozie — film fab. radz. 12.15 Dzien. 12.35 Lekt. Pegaza. 13.00 Konkurs skoków o Puchar Przyjaźni. 14.00 Dla dzieci. 15.10 Los. Duż. Lotka. 15.25 Pokazy Mistrzów Europy w jeździe figur. na lodzie. 17.45 Refleksje obywat. 18.00 Bitwa morska — teleturniej. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dorosłych. 20.30 Rodzina Whiteoaków — film ser. kanad. 21.25 Teatr Nieduży Jeremiego Przybory: „Gołoledź". 23.00 Inf. mag. sport.

**Poniedziałek 19.I.** 9.00 TELERANEK. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Mech. rol. 15.50 NURT. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dzien. 16.20 Obiektyw. 16.40 Echo stad. 17.00 Dla dzieci. 18.00 Opowieści o Stülpnerze — film ser. TV NRD. 18.50 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Teatr TV: T. Sobańska-Dąbrowska i H. Boukołowski — „Joanna". 21.20 Pr. public. 22.30 Dzien. 22.50 Sopot 75.

**Wtorek 20.I.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Mech. rol. 9.00 TELERANEK. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. 10.30 Film fab. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. 12.55 Dla szkół średnich: Rodzina współcz. 13.25 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio TV Młod. 17.05 Na wiel. i mał. ekr. 17.35 Nie tylko dla pań. 18.05 Studio TV Młod. 18.20 Fakty, Opin., Hip. 18.55 Studio TV Młod. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Studio TV Młod. 20.40 Dni zdrady — film fab. czechosł. — cz. I. 22.00 Studio TV Młod. 22.10 Interstudio. 22.50 Dzien.

**Środa 21.I.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 9.00 TELERANEK. 10.00 Film fab. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. dla naucz. 14.40 Politech. Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.00 Los. Mał. Lotka. 18.20 Rossini bez aureoli. 18.50 Spotk. z medyc. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Dni zdrady — film fab. czechosł. — cz. II. 21.55 Listy i polit. 22.25 Dzien.

**Czwartek 22.I.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. metod. dla naucz. 9.00 TELERANEK. 10.00 Film fab. 13.25 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.05 Patrol. 18.45 Giełda report. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 I nikt nie zdołał jej uratować — film fab. ang. 21.40 Studio z Pegazem. 22.40 Dzien.

**Piątek 23.I.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 7.30 Film fab. 9.00 TELERANEK. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. metod. dla naucz. 14.40 Politechnika. Matematyka — cz. I i II. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.00 Inf. Wydawn. 18.15 Filmy przyr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.25 Dialogi z poetą o poezji — St. Ryszard Dobrowolski. 20.55 Panor. 22.10 Gospodarność i ja. 22.25 Dzien. 22.40 Wiad. sport.




**Piątek 16.I.** — 8.30 Film fab. 12.00 Film dok. 13.35 Film fab. 17.00 Koncert. 17.45 Film fab. 19.30 Sport (łyżwy).

**Sobota 17.I.** — 8.30 Film fab. 10.45 Koncert. 11.30 Film fab. 13.20 Dla dzieci. 15.15 Cyrk USA. 16.15 Filmy anim. 17.00 Sport (łyżwy). 19.30 Koncert.

**Niedziela 18.I.** — 9.00 Sport (łyżwy). 12.10 Film fab. 15.00 Sport (łyżwy). 19.30 Koncert symf.




**Białowieża** Miasto w czerni — węg. 20—21. Człowiek w dziczy — USA 22—23. Tajemnica rękopisu — radz. 24—25.

**Czeremcha** Niewygodny kochanek — wł. 20—21. Nokaut — jug. 24—25.

**Czyże** Rajdowa sympatia — czes. Przygody misia Yogi — USA 21—25.

**Dubicze Cerkiewne** Miasto w czerni — węg. Zapamiętaj imię swoje — pol. 21—25.

**Gródek** Miasto w czerni — węg. 24—25.

**Kleszczele** Woda życia — radz. 20—21. Kobiety, które kochałem — rum. 22—23. Nie ma mocnych — pol. 24—25.

**Michałowo** Nie unikniesz przeznaczenia — fr. 20—21. Ostatni nabój — rum. 22—23. Ulzana wódz Apaczów — NRD 24—25.

**Mielnik** Prywatny detektyw — ang. 21. To ja zabiłem — pol. 24—25.

**Milejczyce** Kaszebe — pol. 20—21. Flip i Flap w legii cudzoziemskiej — USA 22—23. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 24—25.

**Narew** Komedia pomyłek — pol. Okna czasu — węg. 21—25.

**Narewka** Weronika w kraju czarów — rum. Ktoś za drzwiami — fr. 21—25.

**Nurzec** Człowiek na torze — pol. 20—21. No i co doktorku — USA 22—23. Kobieta z lancetem — radz. 24—25.

**Orla** Mania wielkości — fr. Ziemia obiecana — pol. 21—25.

**Rajsk** Gniazdo — pol. Miłość rozkwita w piątek — rum. 21—25.

**Suchowola** Charley Varrick — USA. Przygody małego Bimbo — rum. 21—25.

B.Z.Graf. Zam. 79 F-2

